© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№492 Студзень 2004 г.
Год выданьня 54



**Віншуем нашых чытачоў са сьвятамі й жадаем вясёлага Новага 2004-га году і радасных Калядаў.**

# Каляднае віншаваньне Старшыні Рады БНР



Дарагія браты й сёстры беларусы!

У гэтым часе году, фактычна адзіным часе, калі ўсе мы думаем пра будучыню і жадаем адзін аднаму *зьменаў да лепшага, хачу падзяліцца з Вамі маімі найбольш глыбокімі жаданьнямі на будучыню,* жаданьнямі зьменаў, якія-б далі нашаму краю і нашаму народу пачэснае месца ў сям'і вольных народаў сьвету.

Гэтага, нажаль, ня станецца, пакуль кожны з нас ня будзе ўважаць вольную і незалежную Беларусь найбольшай каштоўнасьцяй нашага народу, пакуль кожны з нас не зразумее, што безь дзяржаўнасьці народ наш ня будзе нічым іншым, як другарадней меншыней у чужой імпэрыі.

Нам ня можа быць абыякавым, ці вольная нашая зямля, ці не. Шукаць для сябе выгадаў за кошт краю ня ёсьць годным ніводнага беларуса. Затое калі кожны з нас усьведаміць сабе, што наш найбольшы скарб - гэта свая ўласная вольная і незалежная дзяржава, дык, мяркую, што ўсе мы задумаемся, што кожны з нас можа зрабіць для дабра і дабрабыту гэтай дзяржавы, што ён ці яна можа зрабіць, каб стварыць у Беларусі ўмовы жыцьця ня горшыя, як у найбольш заможных краінах нашага эўрапейскага кантынэнту.

Мы ёсьць народ здольны, працавіты, ініцыятыўны. Я часта падзіўляю нашую новую хвалю эмігрантаў, як яны ўмеюць даць сабе рады ў краінах, дзе іх рукі не зьвязаныя страхам ды нялюдзкімі дэкрэтамі зьверху. Дык жадаю вам сёньня, мае дарагія суродзічы, волі й сілы вызваліцца ад страху ды абараніць сваю незалежную сувэрэнную дзяржаву, найбольшую каштоўнасьць кожнага народу, ды ўжо ў гэтым новым 2004-м годзе пачаць разам адбудоўваць нашу дарагую Бацькаўшчыну - Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

### ЗІМА

Ноч, сумёты, месяц бляды,
Роўнядзь сьнежнага радна...
Хукам мацаюць Каляды
Заінелы мат вакна...

*Маразіскі шал барвяны*
Пурпуруе твар зімы,
Нашых лёсаў сьлед крывяны
Ў гэтым шале чуем мы...

І ў чаканьні цёплай печкі
Усёжткі марым пра камін...
Ноч, сумёты, елкі-сьвечкі,
Чорны ў белым сьвет... Амін.

*Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ*



# Да ўгодкаў Беларускай Цэнтральнай Рады

*Развагі маладога гісторыка*

60 гадоў таму, 21-га сьнежня 1943-га году, была створаная Беларуская Цэнтральная Рада, а 24-га студзеня 1944-га году яна сабралася на сваё першае паседжаньне. Прэзыдэнтам стаў Радаслаў Астроўскі.

Згодна са статутам, падпісаным генэральным камісарам Беларусі Куртам фон Готбэргам, БЦР зьяўлялася "прадстаўніцтвам беларускага народу, пакліканым у межах нададзенага яму самаўраду", і магла "самастойна вырашаць і праводзіць усе неабходныя мерапрыемствы ў галінах сацыяльнага, культурнага і школьнага жыцьця".

БЦР стваралася ва ўмовах спэцыфічнай ваеннай сытуацыі. Немцы атрымалі сакрушальную паразу на Усходнім фронце (лета 1943 г.) і пачалі адступаць. Увосень савецкае войска заняло шраг раёнаў Усходняй Беларусі (быў нават вызвалены абласны Гомель). Таму немцы, у тым ліку і дзеля здабыцьця сымпатыяў як сярод беларускіх грамадзкіх дзеячаў, так і насельніцтва, пагадзіліся на стварэньне Беларускай Цэнтральнай Рады - беларускага ўраду, хоць і з абмежаванымі функцыямі. Так была ажыцьцёўленая ідэя, якая яшчэ некалькі месяцаў таму выклікала моцны супраціў нямецкіх уладаў і рэпрэсіі ў дачыненьні да ініцыятараў прапановаў такога кшталту.

У склад кіраўніцтва БЦР увайшлі такія вядомыя асобы, як юрыст Мікола Шкялёнак (першы віцэ-прэзыдэнт), кіраўнік Беларускай Самапомачы Юры Сабалеўскі (другі віцэ-прэзыдэнт), будучы шэф Краёвай Абароны Франц Кушаль, кіраўнік Цэнтральнага ганддёвага таварыства "Ўсход" у Беларусі Сымон Кандыбовіч, юрыст Павал Сьвірыд, кампазытар Вячаслаў Сэлях-Качанскі, культуроляг Аўген Калубовіч, лекар Станіслаў Грынкевіч і інш. Пры БЦР было створана 12 аддзелаў: асьветы, навукі, культуры; прапаганды й прэсы; сацыяльнага забесьпячэньня; фінансавы; моладзі; веравызнаньняў; кантролю; агульна-адміністрацыйны; гаспадарчы; праектаў; нацыянальнасьцяў, Краёвай Абароны. Радзе былі перападпарадкаваныя ўсе арганізацыі, што дзейнічалі ў Беларусі: Саюз Беларускай Моладзі, Навуковае Таварыства, Культурнае Згуртаваньне, Беларуская Самапомач, а таксама прафсаюзы.

Цікава, што праз некалькі гадоў шраг сябраў БЦР перайшоў пад сьцягі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі - Аўген Калубовіч, Франц Кушаль, намесьнік прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу Станіслаў Станкевіч, намесьнік на Вялейскую акругу Язэп Малецкі, а намесьнік БЦР на Навагрудзкую акругу Барыс Рагуля стаў нават праваю рукою Міколы Абрамчыка - першага прэзыдэнта аднаўленай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

У першай палове 1944-га году ў беларускай прэсе і на месцах разгарнулася шырокая прапагандысцкая кампанія ў падтрымку БЦР. Частка сялянаў і інтэлігенцыі паверыла ў магчымасьць пабудовы сваёй дзяржавы пад нямецкім пратэктаратам. Большасьць-жа паставілася да новай беларускай ўлады індыфірэнтна: паглядзім, што далей будзе. Тым больш, што немцы сваёй недальнабачнай палітыкай і карнымі акцыямі падарвалі давер насельніцтва. Аднак БЦР дабілася пэўных вынікаў у грамадзкім жыцьці: працягвалася беларусізацыя школаў і грамадзкага жыцьця, аказваўся далейшы ціск на расейскаарыентаваную частку кіраўніцтва Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, назіраўся рост нацыянальна-культурнага жыцьця, ішла падрыхтоўка адкрыцьця ўнівэрсытэту і інш. У адрозьненьне ад арганізацыяўпапярэднікаў (Беларускай Народнай Самапомачы, Рады Даверу), якія мелі дарадчыя функцыі, БЦР мела большую вагу ў вачох нямецкіх чыноўнікаў. Адпаведна, у яе было болей магчымасьцяў для абароны насель-

*Працяг на бачыне 7*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Беларускія калядныя ялінкі

## Нью Брансўік

На працягу 15-ці гадоў у часе калядна-навагодняга сэзону беларуская ялінка стаіць разам зь ялінкамі іншых этнічных групаў у музэі Амэрыканска-Вэнгерскай Фундацыі ў гор. Нью-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі. Удзел беларусаў у паказе ялінак быў запачаткаваны й выконваны на працягу гадоў сьв. пам. Галінай і Васілём Русакамі. Апошнім часам традыцыю працягваюць сужэнцы Серж Трыгубовіч і Кацярына Рэзьнікава. На беларускай ялінцы наведнікаў захапляюць прыгожа зробленыя цацкі з саломкі. Выстаўка этнічных ялінак кожны раз апісваецца ў мясцовым друку. ***Я. З.***



*Серж Трыгубовіч каля беларускай ялінкі.*

## Чыкага

Напярэдадні Калядаў і Новага году галоўны офіс найвялікшай ў штаце Ілінойс акругі Кук, у якую ўваходзіць горад Чыкага са сваімі ваколіцамі, наладзіў урачыстае прыняцьце, куды былі запрошаныя прадстаўнікі ўсіх этнічных групаў, што пражываюць тут. У будынку ў самым цэнтры Чыкага, у вялікай зале была наладжаная незвычайная выстава - ялінкі, упрыгожаныя ў адпаведнасьці з нацыянальнымі асаблівасьцямі й звычаямі ўсіх такіх групаў. Каардынатарам імпрэзы была спн. Пат Міхальскі, асыстэнтка скарбніка акругі Кук па этнічных справах і прэсе, якая скантакта-валася зь беларускай арганізацыяй. Сярод 51 ялінкі ўсёй экспазыцыі найбольш вылучалася сваёю адмысловаю прыгажосьцю і мастацкім афармленьнем нашая, беларуская.

Спн. Вера Рамук, адказная за ўдзел Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, прыбрала самыя характэрныя аздобы, зробленыя калісь сьв. пам. Людвікаю Бяленіс, і якія выкарыстоўвалі на ялінцы, выстаўленай колькі гадоў запар у беларускай каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы. Усе арнамэнты зробленыя самаручна з саломкі ў вясёлкавых калерах, у розных гэамэтрычных фігурах, прыкладам, жырандоляк, зорачак, падвойных трыкутнікаў і розных шматгранных дызайнаў.

"Шчыра вітаю ўсіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары, - сказала, зьвяртаючыся да гасьцей, скарбнік акругі Марыя Паппас. - Як супольнасьць людзей нашая акруга Кук адрозьніваецца ад многіх у Амэрыцы. Гэтыя бліскуча ўпрыгожаныя ялінкі добра адлюстроўваюць нашую асаблівасьць: мы этнічна багатыя і шматнацыянальныя. Бачыце: у гэтых ялінках столькі прыгажосьці, сапраўднай дабрыні, яны - сымбаль міру на зямлі й сапраўднай дружбы. Жадаю ўсім, хто родам зь Беларусі, усяго самага найлепшага ў сувязі з каляднымі сьвятамі! Шчасьця і дабрабыту!"

Беларуская калядная ялінка, упрыгожаная з дапамогаю актывістаў-прыхаджанаў царквы Сьвятога Юр'я, экспануецца таксама на традыцыйнай выставе ў Чыкагскім музэі Навукі й Індустрыі.

***Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ***



***На здымку: каля беларускай ялінкі ў офісе акругі Кук зьлева направа: Вітаўт Рамук, Марыя Паппас, Раіса Браткіў, Вера Рамук.***

# Пікет у Гаазе

Зьвяз Беларусаў Галяндыі правёў 10-га сьнежня 2003-га году пікетаваньне беларускай амбасады ў Гаазе. Акцыя была прысьвечаная Міжнароднаму дню абароны правоў чалавека. Мэтаю акцыі было прыцягненьне большай увагі міжнароднай супольнасьці да крытычнай сытуацыі ў Беларусі й заклік да барацьбы з парушэньнямі там правоў чалавека.

Супрацоўнікі беларускай амбасады праігнаравалі пікет, чым пацьвердзілі абыякавасьць беларускай улады да пратэстаў беларусаў замежжа.

Жывую зацікаўленасьць выказалі прадстаўнікі амбасадаў ЗША і Францыі. Праз супрацоўнікаў амэрыканскай амбасады быў перададзены зварот да Кангрэсу ЗША.

У акцыі ўзялі ўдзел каля 15 чалавек, якія рэпрэзэнтавалі найбольшыя партыі й рухі Беларусі: БНФ, АГП, Малады Фронт.



***Удзельнікі пікету ля будынку беларускай амбасады.***

# Беларуская калядка ў амэрыканскай школе

Сужэнцы Крыс Гернат і Натальля Русак жывуць у гарадку Ляфает у штаце Нью-Джэрзі ў маляўнічай гарыстай мясцовасьці. Ната, дачка Васіля і Галіны Русакоў, разам зь сястрою Людаю змалку перанялі ад дзядоў і бацькоў родную мову ды перадалі яе сваім дзецям (у кожнай па трое). Натальлін муж, роджаны, як і яна, у Амэрыцы ў сям'і славацкага паходжаньня, спрыяе англа-беларускаму двумоўю. Падтрымліваньне шматкультур'я ў сям'і - зьява вельмі ўласьцівая амэрыканскай традыцыі. Шматкультур'е культывуецца і ў адукацыйнай сыстэме. Гэтак, прыкладам, Націна сястра Люда, калі працавала настаўніцай, давала лекцыі беларускай мовы сваім вучням у пазаўрочны час. У школе, куды ходзяць трое Крысавых і Націных дзяцей, настаўнікі таксама выкарыстоўваюць розныя нагоды, каб азнаямляць навучэнцаў зь іншымі культурамі.

*Малодшыя Гернаты, Кіпрыян і Настасія*, наведваюць другую клясу, але займаюцца ў розных групах. Пэдагогі абедзьвюх групаў, калі надыходзяць Каляды, вучаць дзяцей сьпяваць хорам калядкі на мовах іншых народаў. Летась сьпявалі калядку па-італьянску. Сёлета-ж Ната, якая актыўна супрацоўнічае з настаўнікамі, запрапанавала прасьпяваць калядку па-беларуску. Параіўшыся, выбралі ведамую "Ціхую ноч", прыгожы пераклад якое зрабіла некалі Натальля Арсеньнева. Мэлёдыя знаёмая. Засталося толькі вывучыць словы. Ната зрабіла фанэтычны транскрыпт тэксту. Другаклясьнікі, усіх каля 40, пачалі праводзіць сьпеўкі, практыкуючыся ў беларускім вымаўленьні. Ната змабілізавала ўсе свае выканальніцкія здольнасьці, каб памагчы харыстам зь беларускаю моваю. Гэтак маленькія калядоўшчыкі ня толькі навучыліся сьпяваць на іншай мове, але і даведаліся пра далёкую краіну Беларусь, адкуль перабраліся некалі ў Амэрыку прадзеды й дзяды Кіпрыяна і Анастасіі.

Школьны канцэрт прайшоў удала. Калі меркаваць па відэазапісе, які зрабіла Натальля, беларускае вымаўленьне школьнікі апанавалі даволі добра. Аўдыторыя, якая складалася з бацькоў дзяцей, была задаволеная выкананьнем калядкі "Ціхая ноч" ды пашырэньнем праз гэта ведаў геаграфіі ў іхных дзяцей.

***Я. З.***

# Дапамога беларускай адукацыі

Беларускамоўнай адукацыі пільна патрэбная матар'яльная дапамога, каб даць адпор узмоцненаму наступу з боку антыбеларускага рэжыму.

Паведамляем сьпіс асобаў, якія згадзіліся дапамагаць штомесячна да канца школьнага году.

***Нью Ёрк:*** (адказная Тацьцяна Красоўская, тэл. (718) 859-7201) Антон Шукелойць, Валянціна Якімовіч, Вікторыя Марцелло, Іна Фанская, Алесь Сокал, Аляўціна Кіпель, Вольга Крупнік, Уладзімер Кадола, Натальля Гаршкова, Анжэліна Шупо, Юлія Карніевіч, Юрась Міхед, Сяржук Сокалаў-Воюш, Пётра Пер'еў, Алесь Крыштаповіч.

**Наступныя ўстановы й асобы далі большыя ахвяраваньні:**

***Кліўленд***: царква Жыровіцкай Божай Маці (В. Дубаневіч, Г. Кананчук), Грамадзкі цэнтар "Полацак", Анатоль і Натальля Лук'янчыкі, Этнічны Голас Амэрыкі (Ірына Каляда-Сьмірноў).

***Нью Ёрк***: Кастусь Верабей.

**Запрашаем беларускае грамадзтва далучыцца да гэтай акцыі!** Усе ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў. Чэкі можна выпісваць на ўстанову, якая каардынуе акцыю дапамогі: ***O. R. Cultural & Educational Foundation, 172 Mill Spring Rd, Manhasset, NY 11030.***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Беларусь за месяц

## Час зьездаў і кадравых перастановак

Сьнежань - гэта ня толькі падрыхтоўка да Калядаў ці Новага году. У гэтым месяцы ў Беларусі ладзяцца зьезды партыяў. Можа гэта і слушна. Можна азірнуцца на мінулы год і заплянаваць нейкія рэчы, у тым ліку і акцыі, на наступны. Ды й марознае надвор'е мабілізуе і не дае расхадзіцца на лішнія размовы.

Так, у сьнежні прайшлі зьезды Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ і Партыі БНФ (падрабязьней пра іх крыху ніжэй. Зазначым, што абодва гэтыя зьезды адбыліся па-за межамі сталіцы, бо адміністрацыя гатэляў ці дамоў культуры, дзе традыцыйна ладзяцца такія форумы, усё часьцей адмаўляецца браць на сябе "адказнасьць". Каб потым ня звольнілі за нацыяналізм.

Адбыўся пазачарговы зьезд у Лібэральна-дэмакратычнай партыі, няясная сваімі палітычнымі мэтамі. Лідэрам партыі быў пераабраны Сяргей Гайдукевіч, кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2001-га году. Апанэнты Гайдукевіча, напэўна, выключаныя са складу ЛДП і будуць ствараць новую лібэральную партыю.

У які раз быў перанесены зьезд Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ). На гэтым форуме мусіла прайсьці афіцыйнае далучэньне да партыі колішніх сябраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), што пакінулі яе шэрагі праз разыходжаньні зь лідэрам "народных грамадоўцаў" Міколам Статкевічам. "Злыя языкі" кажуць, што зьезду БСДГ усяляк пасцінуецца яе старшыня Станіслаў Шушкевіч - баіцца згубіць свае пазыцыі ў партыі. Бо ў выніку ў кіраўніцтве абноўленай БСДГ Шушкевічам будуць незадаволеныя дастаткова моцныя, па беларускіх мерках, і амбіцыйныя былыя паплечнікі Статкевіча - Анатоль Гурыновіч, Аляксей Кароль, Анатоль Сідарэвіч.

Прайшоў чарговы зьезд Ленінскага камуністычнага саюзу моладзі Беларусі (ЛКСМБ). Камсамольцы зазначаюць, што Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, створаны на дзяржаўныя грошы, сьлепа падтрымлівае антынародны курс Лукашэнкі й не карыстаецца падтрымкаю моладзі. Таксама сябры ЛКСМБ (а іх крыху больш за тысячу) заявілі пра падтрымку кааліцыі "5+" на парлямэнцкіх выбарах у 2004-м годзе.

Для "афіцыйнага" палітычнага жыцьця сьнежань - час "пера-трахваньня" ўладных структураў. Вось і гэтым разам Аляксандар Лукашэнка зрабіў "падарункі" насельніцтву да новага году. 24-га сьнежня былі прызначаныя новыя міністры прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, эканомікі, а таксама жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Адстаўку былых "нядбайных" міністраў прэзыдэнт матываваў тым, што, маўляў, не на 100 адсоткаў выкладваліся і слаба клапаціліся пра народныя інтарэсы. Цікава, а хто прызначаў тых міністраў?

Атрымаў афіцыйны тытул прэм'ер-міністра і Сяргей Сідорскі. Дагэтуль ён быў выканаўцам абавязкаў кіраўніка ўраду. Нечакана пакуль захаваў сваю пасаду старшыня КДБ Леанід Ерын, ня гледзячы на тое, што падчас наведваньня камітэту дзяржбясьпекі Лукашэнка рэзка раскрытыкаваў ягоную дзейнасьць. Маўляў, і дзяржаўныя таямніцы прадаюць, і мала інфармацыі пра мясцовых ворагаў

## Дзень правоў чалавека

10-га сьнежня ў сьвеце адзначылі 55-я ўгодкі прыняцьця Ўсеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека. У беларускай сталіцы грамадзкасьць - прадстаўнікі Аб'еднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), Партыі БНФ, "Зубра", "Маладога фронту", "Хартыі-97". ды іншых дэмакратычных арганізацыяў - зладзіла Ланцуг неабыякавых людзей. Ланцуг працягнуўся ўздоўж праспэкта Скарыны, заняўшы квартал ад Кастрычніцкага пляцу да вуліцы Янкі Купалы.

Па сканчэньні акцыі была затрыманая актывістка "Хартыі-97" Натальля Каляда, якая раздавала партрэты зьніклых людзей. Яе прывезьлі ў пастарунак міліцыі, але пасьля таго, як дзяўчына прад'явіла журналісцкае пасьведчаньне, адпусьцілі.

## Новая праваабарончая арганізацыя

9-га сьнежня ў Менску быў заснаваны "Праваабарончы альянс Беларусі". Сярод заснавальнікаў ведамыя праваабаронцы, грамадзкія дзеячы, журналісты - Валянцін Голубеў, Павел Мажэйка, Аляксей Марачкін, Мікола Маркевіч, Юлія Чыгір, Алесь Шатэрнік, Васіль Шлындзікаў. Кіраўніком альянсу абралі былую дэпутатку Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Людмілу Гразнову, а ў склад кіраўніцтва праўленя ўвайшлі мастацтвазнаўца Аляксей Хадыка, журналісты Генадзь Барбарыч, Генадзь Кесьнер, Аляксандар Сіліч, адвакат Сяргей Цурко. Арганізацыя мае намер зарэгістравацца ў Літве, бо, на думку яе сябраў, у Беларусі зрабіць гэта нерэальна.

## Камуністы перамаглі дэмакратаў

Партыя камуністаў Беларусі (ПКБ) - гэта камуністы-антылукашысты, якія ўваходзяць у дэмакратычны блёк "5+" -перамаглі ў традыцыйным перадкалядным міні-футбольным турніры, што прайшоў 14-га сьнежня ў Менску.

У кубку бралі ўдзел чатыры каманды - вышэйзгаданая ПКБ, Аб'еднаная грамадзянская партыя, Партыя БНФ і каманда журналістаў. Турнір праходзіў па кругавой сыстэме. Вось камуністы-калякінцы (старшынём партыі - Сяргей Калякін) і сьвяткавалі перамогу ва ўсіх трох матчах. Другое месца - у АГП (дзьве перамогі). Партыя БНФ і каманда журналістаў па дзьве сустрэчы прайгралі - і камуністам, і "лябедзькаўцам", - а між сабой згулялі ўнічыю.

А тым часам "чэсныя камуністы", сябры Камуністычнай партыі Беларусі, якія падтрымліваюць адзінаправільную пазыцыю прэзыдэнта Беларусі, - сабраліся на свой зьезд. У рэзалюцыі, прынятай па выніках, пастанавілі змагацца з буржуазіяй, з варожым блёкам НАТО, да самага яго разгрому, мацаваць саюз Беларусі й Расіі й усяляк падтрымліваць палітыку прэзыдэнта Беларусі. Кожнаму - сваё.

## Зьезд КХП-БНФ

14-га сьнежня прайшоў VIII зьезд Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ і руху БНФ "Адраджэньне".

У зьезьдзе, які праводзіўся пад Менскам, узялі ўдзел 146 дэлегатаў. Асноўнай падзеяй зьезду быў даклад старшыні партыі Зянона Пазьняка, які ўжо 7 з паловай гадоў знаходзіцца на выгнаньні. У дакладзе дасталося Расеі, што спрабуе інкарпараваць Беларусь, і кіраўніку місіі Кантрольна-назіральнай групы АБСЭ Гансу Георгу Віку, які ўжо два гады як пакінуў Беларусь - "галоўнаму архітэктару стварэньня грантавай намэнклятурнай "апазыцыі" й разбурэньня Беларускага Народнага Фронту". Дасталося і ЗША. Быў раскрытыкаваны ў дакладзе Эўразьвяз, "які не прызнае традыцыйных каштоўнасьцяў хрысьціянскай культуры й дае волю розным збачэнствам, у тым ліку і сэксуальным". Паводле лідэра партыі, сярод найбліжэйшых задачаў КХП - БНФ - не дапусьціць страты незалежнасьці, зьберагчы мову, культуру, працу і маёмасьць Беларусі шляхам ліквідацыі нелегітымнай прамаскоўскай улады. "Наш шлях - незалежная моцная Беларусь. Нам ня трэба ні ў лева, ні ў права, ні на Ўсход, ні бяздумна на Захад. Мы - Эўропа. Эўропа Ўсходняя. Нас нічога добрага не чакае ў цяперашняй лібэральнай Заходняй Эўропе. Мы там чужыя. Гэтак-жа, як чужыя ў Расеі. Мы іншыя эўрапейцы, бо не згубілі душы. Беларусь - наша Эўропа".

Кіраўніком партыі аднагалосна быў пераабраны Зянон Пазьняк, намесьнікамі сталі - Юрась Беленькі (выканаўца абавязкаў старшыні партыі ў Беларусі) і Сяргей Папкоў.

## Зьезд Партыі БНФ

Некаторыя перад зьездам прадракалі чарговы раскол і сэрыю скандалаў. Нічога такога не адбылося. Зьезд таксама праходзіў у паходна-палявых умовах. Адміністрацыя комплексу "Раўбічы" адмовіла, спаслаўшыся на аварыю ў сыстэме каналізацыі, і зьезд давялося праводзіць у матэлі ля шашы Менск - Брэст.

На зьезьдзе старшыні партыі быў пераабраны Вінцук Вячорка. За яго прагаласавалі 149 дэлегатаў, супраць - 66. За ягонага апанэнта Алеся Астроўскага з Горадні прагаласавалі 55 чалавек, 160 - "супраць". Дэлегат ад Магілёва Анатоль Фёдараў зьняў сваю кандыдатуру на карысьць Астроўскага, а старшыня Менскай абласной філіі Алесь Міхалевіч - на карысьць Вячоркі. Намесьнікамі абраныя Віктар Івашкевіч, Алесь Міхалевіч, Юры Хадыка, Аляксей Янукевіч. Зьезд таксама пастанавіў пад сумнеў сумленнасьць найбліжэйшых парлямэнцкіх выбараў, але пастанавіў браць удзел у кампаніі дзеля рэклямы ідэй партыі сярод выбарцаў.

## Івашкевіча вызвалілі

Былы галоўны рэдактар газэты "Рабочы" Віктар Івашкевіч 16-га сьнежня выйшаў на волю. Нагадаем, што ён адбываў пакараньне ў баранавіцкай "хіміі" за паклёп на Лукашэнку. Меркавалася, што Івашкевіч выйдзе а другой гадзіне дня, але адміністрацыя, збаяўшыся журналістаў і паплечнікаў, якія маглі пад'ехаць на сустрэчу, выпусьцілі журналіста а палове на восьмую раніцу.

На прэс-канфэрэнцыі ў Менску Віктар Івашкевіч заявіў, што зьбіраецца заняцца палітыкай, у прыватнасьці, пачне з пасады сакратара ва Ўправе БНФ. А вось выдаваць газэту ён не зьбіраецца, бо шмат марокі з гэтым і бюракратычных перашкодаў.

## Першае месца па курсу даляра

Беларусь утрымала першае месца сярод краін СНД і Балтыі па тэмпах росту курсу даляру да нацыянальнай валюты. За год афіцыйны курс даляра, усталяваны Нацбанкам, вырас з 1920 да 2156 рублёў, што склала 12,3%. Ва Ўзбэкістане, што "заняў" другое месца, даляр падаражаў на 1,03%, у Азэрбайджане на 0,61%.

А вось у астатніх краінах даляр таньнеў. Ва Ўкраіне - на 0,02%, у Расеі - на 7,33%, у Латвіі - на 8,92%, у Літве - на 16,59%, у Эстоніі - на 16,92%. Трэба ўлічваць таксама той факт, што ў краінах Балтыі нацыянальная валюта прывязана да эўра, а ў 2003-м годзе эўрапейская валюта ў параўнаньні з далярам моцна падаражала. Напрыклад, у Беларусі на 31-га сьнежня 2002-га году афіцыйны курс эўра складаў - 1994 рублі, а праз год - 2695 руб., а пасьля сьвятаў эўра перакрочыў адзнаку 2715 рублёў.

*Уласны карэспандэнт*

## Помнік Ларысе Геніюш



Нядоўна ў Беларусі быў усталяваны помнік Ларысе Геніюш. Адбылося гэта дзякуючы намаганьням кіраўніка грамадзкакультурнага клюбу "Спадчына" Анатоля Белага.

Гадоў дзесяць таму клюб "Спадчына" пачаў зьбіраць грошы на гэты помнік. Некаторыя беларусы Амэрыкі таксама адгукнуліся на гэты заклік. Помнік быў зроблены, але ўлады не дазвалялі паставіць яго. Цяпер ён быў усталяваны ў Зэльве на тэрыторыі, якая належыць мясцовай Траецкай царкве.

*С. БЕЛАЯ*

**Запрашаем беларускіх гісторыкаў (і іншых аўтараў) публікаваць свае працы на сайце Беларускай Інтэрнэт-Бібліятэкі КАМУНІКАТ http://kamunikat.net.iig.pl**

**Можна гэта рабіць на два спосабы:**

- публікуючы свае кніжкі ў разьдзелах Бібліятэкі;
- ствараючы свой пэрсанальны сайт у Бібліятэцы;

**Тэхнічныя справы Вас няхай не турбуюць. Гэтым займецца webmaster сайту. Вам трэба даслаць толькі электронны варыянт Вашых кніжак (першы спосаб) ці падрабязную біяграфію-CV кніжкі, артыкулы, выступленьні на канфэрэнцыях і г. д. (другі спосаб).**

**З пытаньнямі зьвяртайцеся на адрас: kamunikat@poczta.onet.pl**

**У Менску выйшаў Трэці том Збору твораў Яна Станкевіча. Том зьмяшчае гістарычныя творы, напісаныя ў 1930-76 г.г.**



**Сярод шасьнаццаці навукова-папулярных працаў ёсьць "Крыў'я-Беларусь у мінуласьці", "Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі", "З украінскіх дачыненьняў да Вялікалітвы-Беларусі". Цьвёрдая вокладка, 776 стар.**

**Кошт $29 (зь перасылкаю $34).**

**Замовы шліце замовы на адрас:**
*W. Stankievich*
*100 Seaview Ave. 4-2*
*Monmouth Beach , N.J. 07750*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Беларуская замежная прэса і радыё

**Сёлета спаўняецца 54 гады існаваньня беларускай праграмы Радыё Ватыкан. Як найстарэйшая, яна мае гонар быць першаю сярод радыёпраграмаў у нашай сэрыі.**




Дзень заснаваньня 12-га лютага 1931-га году. Гэтага дня Папа Рымскі Пій XI сказаў да ўсяго сьвету праз збудаваную самым Марконі (вынаходнікам радыё) радыёстанцыю першае пасланьне "Омні Крэатурэ" (значыць, да усяго стварэньня).

Што гэта - Ватыканскае Радыё? Гэта радыё Рымскага Папы, асноўнаю мэтаю якога ёсьць абвешчаньне хрысьціянскага пасланьня, якое трапляла-б да слухачоў. Але найлепш на гэтае пытаньне адказаў цяперашні Папа, Ян Павал II, калі сустрэўся з нашымі супроўнікамі 5-га лютага 1980-га году. " Вашае заданьне - зьвярнуўся Папа да ўсіх нас - зрабіць чутным біцьцё сэрца Царквы ва ўсіх частках сьвету і старацца ўмацоўваць сувязь мясцовых Цэркваў, асабліва тых, якім прыходзіцца існаваць у краінах, дзе няма рэлігійнае свабоды, з Пасадам Пятра і паміж сабою. З асабістага дасьведчаньня ведаю, што значыць голас Ватыканскага Радыё для тых верных, якія чакаюць ад яго ўмацаваньня ў веры й падтрымкі надзеі"

Цяпер Ватыканскае Радыё перадае свае праграмы ў 44-х мовах сьвету: на Ўсходнюю Эўропу ў 15-ці мовах, Заходнюю Эўропу ў 11-ці мовах, Афрыку ў 6-ці мовах, Азію і Акеанію ў 8-мі мовах, абедзьве Амэрыкі ў 4-х мовах.

На Радыё працуе каля 400 журналістаў і тэхнікаў. Ня буду разводзіцца аб унёску кожнага з Папаў у разьвіцьцё нашае радыёстанцыі. Толькі скажу, што дзякуючы надзвычайнай душпастырскай дзейнасьці цяперашняга Папы, Ватыканскае Радыё асягнула такой ступені пасьпяховасьці й прафэсыйнасьці, што стаіць на ўзроўні прызнаных лідэраў міжнароднага радыёвяшчаньня.

Беларуская Праграма мае даволі сталы век: мінула ўжо 54 гады (і тут трэба падкрэсьліць, што гэта ёсьць найстарэйшая беларуская радыёстанцыя па-за межамі Беларусі), калі ініцыятыўная група беларусаў - Айцец Татарыновіч, Айцец Гарошка, Айцец (пазьнейшы біскуп) Сіповіч і інжынер Рыдлеўскі - распачалі стараньні ў Ватыкане, каб і беларускі голас пачуўся па Ватыканскім Радыё.

Папа Пій XII ласкава згадзіўся на просьбу нашых хадайнікаў, і 6-га студзеня 1950-га году Беларуская Праграма Радыё Ватыкан пачала рэгулярна выходзіць у этэр. Ейны першы кіраўнік, Айцец Татарыновіч, піша ў першым нумары "Зьніча", які выйшаў з друку праз некалькі месяцаў пасьля пачатку радыёперадачаў: "Браты Беларусы. Ваша мова дачакалася найвышэйшага прызнаньня. Вы можаце ёю карыстацца ў кожную пятніцу а гадзіне 18.30, слухаючы Ватыканскіх Радыёперадачаў на кароткіх хвалях…"

Айцец Татарыновіч на працягу 20 гадоў, пазьней айцы Гарошка і Тамушанскі да цяперашні наш склад на чале з айцом Робінэ, нямала паспрыялі й надалей укладаюць стараньні й шмат працы, каб перадаваць на хвалях нашага радыё словы Божае Праўды, хрысьціянскую навуку ды весткі зь беларускага і сусьветнага рэлігійнага і сьвецкага жыцьця.

У мінулыя часы, нашыя праграмы служылі падмацаваньнем царкоўных супольнасьцяў у Беларусі, якія былі перасьледаваныя камуністычным рэжымам. Тады мы большую частку свайго часу ў этэры прысьвячалі праграмам рэлігійнага зьместу (напрыклад, навучаньне праўдаў веры, гутаркі на рэлігійныя і маральныя тэмы, Літурнічныя тэксты, тлумачэньне Эвангельляў і г. д.) Пад канец 80-х і на пачатку 90-х гадоў, пасьля падзеньня Бэрлінскага муру, пачалі нас наведваць суродзічы зь Беларусі, якія былі захопленыя нашай працай. Мы рабілі зь імі інтэрв'ю ды перасылалі ў Беларусь. Сярод іх былі: Васіль Быкаў, Адам Мальдзіс, Анатоль Грыцкевіч ды іншыя. Пачалі мы нават тут выдаваць бюлетэнь "Хрысьціянскія Навіны", ў якім інфармавалі аб дзейнасьці Папы ды аб іншых здарэньнях з культурнага і рэлігійнага жыцьця, як з Ватыкану так і з Бацькаўшчыны. Усяго выйшла 35 нумараў. Атрымлівалі яго беларусы, як з самой Беларусі, так і дыяспары.

Затым пачалі прыбываць таксама чарнобыльскія дзеці. Аб іхных праблемах мы гаварылі на нашым радыё. Успомню яшчэ, што тагачасны міністар замежных справаў, сказаў у прыватнай гутарцы з намі, між іншым: "Мы ведаем аб вас і глядзім на вас." Назваў нават нас "маленькім беларускім консульствам" у Вечным Горадзе.

Цяпер мы сваімі праграмамі намагаемся дапамагаць хрысьціянскім супольнасьцям у пабудове новага грамадзтва, якое цешылася-б большаю свабодаю, чуючыся часткаю хрысьціянскай Эўропы, пераадольвала-б цяжкія грамадзкія, культурныя, маральныя і рэлігійныя праблемы. Маем даволі многа карэспандэнтаў з самой Беларусі: з Горадні, Менску, Віцебску, а таксама і з Беласточчыны, якія сваімі карэспандэнцыямі інфармуюць аб рэлігійным жыцьці ня толькі мясцовае Каталіцкае Царквы, але таксама іншых хрысьціянскіх супольнасьцяў ды паведамляюць пра грамадзкае, культурнае жыцьцё ў Беларусі, з асаблівою ўвагаю да хрысьціянскіх каранёў беларускае культуры.

Нажаль, нам не ўдалося наладзіць сувязі зь беларускай дыяспарай, хаця пасьля візыту ў Рым беларусаў зь Вялікабрытаніі й Бэльгіі, магчыма, нешта паправіцца ў гэтым напрамку. З ЗША, Канадаю ня маем ніякіх сувязяў. А шкада, бо маглі-б інфармаваць на нашых хвалях аб Вашым як рэлігійным, так і грамадзкім жыцьці. Нават можна было-б падаць інфармацыю аб сэсіі БНР. Мы ня маем ніякага супрацоўніцтва, напрыклад, з радыё "Свабода" ды іншымі радыё, як і зь беларускімі цэнтрамі, якія знаходзяцца ў дыяспары. Час ад часу, званяць да нас з радыё "Полёнія", але не каб супрацоўнічаць, але толькі, каб атрымаць інфармацыі аб дзейнасьці Папы Рымскага.

Час ад часу выпадае нам рабіць непасрэдныя радыёхронікі з Багаслужбаў Папы. Гэта можна назваць гонарам і высокім прызнаньнем для нашае працы. Нядаўна ў Рыме адбыліся сьвяткаваньні 25-цігодзьдзя Пантыфікату Папы Рымскага. Прыбыла Другая Нацыянальная Пілігрымка зь Беларусі, на чале з кардыналам Сьвёнтакам, каля 500 чалавек. Мы сустракаліся з удзельнікамі пілігрымкі, рабілі зь імі інтэрв'ю ды перадавалі па радыё.

Ці слухаюць нас у Беларусі й на Беласточыне ў Польшчы? Так, слухаюць уважліва. Аб гэтым сьведчаць лісты, электронная пошта ды нашыя непасрэдныя сустрэчы з слухачамі, калі едзем на вакацыі ў родныя куткі.

***Ад імя кіраўніка Беларускае праграмы Радыё Ватыкан, айца Робінэ, рэдактар Янка Мойсік.***
***E-mail: mojsik@hotmail.com***

## Постаці

## Забытае імя: АЛЯКСАНДАР СТАГАНОВІЧ

На эміграцыі па вайне апынулася значна больш выбітных заслужаных дзеячаў, як мы сабе тое ўяўляем. Пра аднаго зь іх, чыё імя па-сёньня няведамае энцыкляпэдыям, але пра каго некалі абавязкова будзе напісаная кніга, тут пойдзе гаворка.

Аляксандар Стагановіч нарадзіўся 25-га студзеня 1890-га году на Наваградчыне ў сялянскай сям'і. Бацька памёр, калі малому было толькі тры гады. Маці, наколькі давала рады, спрыяла сыну ў здабываньні адукацыі, што ў сялянскай сям'і было няпроста. Якраз тады пад уплывам чытаньня "Нашай Нівы" - гэта быў 1906-ы год - абудзілася ягоная нацыянальная сьведамасьць. У сваіх успамінах "Шэсьцьдзесят год таму. У Вадзначэньне нашаніўскага году" ("Беларус", 1966) ён пісаў: "Ня будзь "Нашай Нівы" - ня было-б Першай, Другой і Трэцяй Устаўных Граматаў, ня было-б БНР. Ня было-б 14-ёх беларускіх прадстаўнікоў у Польскім Сойме і Сэнаце з выбараў 1922-га году. Ня было-б Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады".

З пачаткам І-й Сусьветнай вайны Стагановіч быў змабілізаваны ў расейскую армію. Рэвалюцыя ў Расеі й закончэньне вайны засьпелі яго ў Экспэдыцыйным корпусе ў Францыі.

На родную Наваградчыну А. Стагановіч змог вярнуцца адно ў 1920-м годзе пад час польска-савецкай вайны, але ўжо праз тры тыдні па вяртаньні, сьпякотным ліпенем быў змабілізаваны бальшавікамі на працу ў валасны "рэўкам", дзе змушаны быў заняць пасаду скарбніка і ўпаўнаважанага для правядзеньня "зямельнай рэформы". Верасьнем таго-ж году вярнуліся палякі ды арыштавалі Стагановіча ў ліку першых, закідаючы яму "няпраўную передачу валаснай касы бальшавікам". Пасьля некалькіх тыдняў допытаў ён быў вызвалены, але ізноў арыштаваны ў 1921-м годзе - і вызвалены зноў.

Напрыканцы 1925-га году Стагановіч уступіў у Грамаду, у 1927-м быў абраны войтам, але польскія ўлады яго на пасадзе не зацьвердзілі, замяніўшы на паслухмянага паляка.

У 1928-м годзе Аляксандар Стагановіч быў вылучаны кандыдатам на пасла ў Польскі Сойм па сьпісе працоўна-сялянскага камітэту "Змаганьне". Выбары мелі адбыцца 4-га сакавіка, але 2-га сакавіка ён быў арыштаваны, што зрэшты не перашкодзіла набраць неабходную колькасьць галасоў ды быць абраным. За кратамі новы пасол прасядзеў да 26-га сакавіка і быў адпушчаны адно на патрабаваньні маршалака Сойму.

У чэрвені таго-ж году, калі Стагановіч вяртаўся з Варшавы ў Навагрудак, быў арыштаваны чарговы раз і адпраўлены ў турму ў Горадні. Суд мусіў апраўдаць ды адпусьціць беларускага незалежніка.

Па вяртаньні ў Сойм ён засьпеў няпростую сытуацыю. Ягоныя былыя паплечнікі па "Змаганьні" бачылі адзінае выйсьце ў шчыльным супрацоўніцтве з Камуністычнай Партыяй Заходняй Беларусі ды ўсяляк імкнуліся схіліць на свой бок Стагановіча. Той адмовіўся - і фактычна застаўся ізаляваным. Ня могучы далей трываць у падобнай атмасфэры, ён вырашыў зрачыся пасольскага мандату. Але-ж разам з мандатам ён выракся і пасольскай недатыкальнасьці: акружны пракурор склаў апэляцыю на скасаваньне прысуду акругoвага суду ў Навагрудку ад 3-га сьнежня 1928-га году. На разглядзе сваёй справы ў Вільне Стагановіч быў засуджаны на 6 гадоў нявoлі. Дома засталіся жонка, малыя дзеці ды рахункі ад адвакатаў.

Зьвяволеньне Стагановіч адбываў у Навагрудку, Горадні, на Лукішках, Віленскіх турмах і быў адпушчаны па амністыі ранейшай тэрміну.

Якія-б новыя ўлады ні прыходзілі - у 1939-м, ці ў 1941-м - вызваленьня не было, як не было і палёгкі.

Дзейнасьць А. Стагановіча на эміграцыі была шматбаковаю: сумесна з А. Адамовічам, Ф. Кушалем, А. Каханоўскім, Ст. Станкевічам ды іншымі ён браў удзел у зьезьдзе ў 1947-м годзе ў Остэргофэне і выбарах Беларускага Нацыянальнага Камітэту, увайшоў ва Ўправу БНК, стаўся адным з закладнікаў аддзелу Згуртаваньня Беларускіх Ветэранаў у Шляйсгайме ў 1952-м годзе, уваходзіў у Япархіяльную Ўправу, абраную на II япархіяльным зьезьдзе духавенства і вернікаў БАПЦ у 1963-м годзе, быў актыўным сябрам БАЗА. У 1957-м годзе, калі Прэзыдыум Рады БНР аб'яднаў з Радаю БНР, Аляксандар Стагановіч працаваў заступнікам прэзыдэнта М. Абрамчыка ды кіраўніком сэктару. Пражыў ён даўгое, плённае і, пэўна, нялёгкае, але шчасьлівае жыцьцё. Адышоў ад нас 28-га сьнежня 1988-га году.

***Л. Ю.***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





# Веcткі й Паведамленьні

ньbig ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №1 (456)

# Сьнежаньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня прайшоў 13-га сьнежня. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка зрабіў агляд падзеяў у Беларусі за апошні месяц. У прыватнасьці ён распавёў пра перамовы паміж урадамі Беларусі й Расеі ў справе кошту на газ і прыватызацыі канцэрну "Белтрансгаз", на які прэтэндуе расейская манаполія "Газпрам". Таксама быў закрануты візыт у Менск прадстаўніка Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы Хрыстаса Пургурыдаса, які наведаў Беларусь дзеля высьвятленьня становішча ў галіне правоў чалавека і ў справе зьніклых палітыкаў. Былі ўзгаданыя візыты Лукашэнкі ў Сырыю і ў Жэневу на форум пад эгідаю ААН па праблемах інфармацыйнага грамадзтва, дзе ён назваў Беларусь, між іншага, "лідэрам у галіне высокіх тэхналёгіяў сярод постсавецкіх краёў". Такія рэдкія візыты толькі падкрэсьліваюць ізалянаванасьць рэжыму на міжнароднай арэне. Сярод іншых паведамленьняў былі: няясная будучыня офісу Арганізацыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе (АБСЭ) у Менску, акцыі ў падтрымку зьняволеных сяброў Маладога Фронту і Беларускай Партыі Свабоды, захады нацыянальнай апазыцыі па каардынацыі дзеяньняў, працяг перасьледу рэжымам недзяржаўных арганізацыяў.

Затым сп. Зайка паведаміў аб падзеях з жыцьця аддзелу, у прыватнасьці аб сустрэчы з дырэктарам Нацыянальнага Гуманітарнага Ліцэю сп. У. Коласам і аб падрыхтоўцы да навагодняй вечарыны.

Наступным выступіў сп. Вячка Станкевіч і больш падрабязна распавёў аб паездцы сп. Уладзімера Коласа, дэрэктара Ліцэю, па Злучаных Штатах, аб ягоных сустрэчах з палітычнымі і прафсаюзнымі дзеячамі.

Затым сп. В. Станкевіч распавёў аб апошніх навінах у справе падтрымкі Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі - 2003, які цяпер знаходзіцца на разглядзе ў Сэнаце ЗША. Сп. Станкевіч заклікаў прысутных далучыць свае галасы, паставіўшы подпісы пад адмыслова падрыхтаванымі лістамі да сэнатараў з заклікам падтрымаць Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі й зрабіцца ягоным су-спонсарам. Усе прысутныя пажадалі далучыцца да гэтай акцыі.

Затым адбылося знаёмства з гасьцямі аддзелу, якіх усё большае. Прагучэлі аб'явы й паведамленьні. Пасьля афіцыйнай часткі прысутныя мелі магчымасьць калегавацца з сябрамі й знаёмымі пры кубку кавы й пачостцы.

**Віталь ЗАЙКА**

# Новы год і несьвяточныя разважаньні

Пасьля навагодняе ночы зноў задаю сабе пытаньне: "Што-ж было першым - курыца ці яйка, матэрыя ці дух?", - і не знаходжу вытлумачальнага адказу.

Гэтак, мабыць, кожны эмігрант шукае адказу на пытаньне: "Ці меў я рацыю, калі пакінуў родных, сяброў, любімую працу, усё, што дорага сэрцу, ды эміграваў у значна лепш разьвітую эканамічна, зь людзкімі законамі, але чужую краіну?".

Праўду кажуць, што ад дабра дабра не шукаюць. І куды нашага брата беларуса не закідвала? Калі-б у Беларусі была палітыка, скіраваная на незалежнасьць, дэмакратыю, разьвіцьцё нацыянальнай культуры й эканомікі, а значыць, на дабрабыт народу, то навошта было-б людзям некуды ехаць, цярпець тыя мытарствы? І крыўдна, што зьяжджаюць людзі вельмі адукаваныя, поўныя сілаў, якія маглі-б паслужыць на карысьць сваёй Беларусі, свайму народу.

Шмат хто з нас ехаў на час, каб падвучыцца, пагасьцяваць і, калі ўдасца (што граха таіць), падзарабіць тых даляраў ды вярнуцца дахаты, маючы толькі гасьцявую візу. А з такімі дакумэнтамі, без амэрыканскае адукацыі, часта бязь веданьня мовы, усе мы, такія разумнікі на радзіме, набываем аддзіную вартасьць на чужыне - дзіркі ад абаранка! Большасьць змушаная мець вельмі цяжкія і нізкааплочваемыя працы, але, маючы беларускі мэнталітэт, нам здаецца, што гэта нібыта і добра ў параўнаньні з заробкамі на Бацькаўшчыне. Хоць для Амэрыкі тых даляраў, як кот наплакаў.

Амэрыка, бадай, адзіная дзяржава, якая дае магчымасьць любому чалавеку зарабіць грошы, але з такою-ж руплівасьцю і забірае іх. Як аплоціш тыя рэнты, білы, страхоўкі ды іншае, а кожны з нас яшчэ-ж падтрымлівае ў Беларусі сваіх родных, дзяцей, бацькоў, дык што там застаецца? І кожны думае, што ўжо ў наступным годзе пастараецца і неяк заашчадзіць тыя даляры на будучыню і трапляе на бегавую дарожку вавёркі ў коле. І незаўважна, бы багна, Амэрыка засмоктвае людзей у тых бегах па коле. Ня ўсім хапае моцы выскачыць з гэтага кола. Студэнцкія візы - гэта прыемна завуаляваная перакачка маладых мазгоў ў ЗША. Грынкарты - мілы падман, што ты зможаш жыць і там, і тут, як нельга быць замужам і заставацца дзеўкаю. Палітычны прытулак - пастка на шмат гадоў. Гэта мой пункт гледжаньня.

Усе людзі розныя. Бываюць і "перакаці-поле", якія прыжываюцца лёгка ўсюды, і чым маладзейшая асоба, тым лягчэй ёй прыстасавацца да новага, бо свайму яшчэ цаны ня зьведалі, ані мове, ні культуры, ні бацькоўскаму парогу, ні магілам дзядоў.

Так ці інакш, але часовая эміграцыя, а тым больш сталая, рэч складаная, падобная на апэрацыю перасадкі сэрца і душы. Сямейным цяжка перажыць першыя гады, але маральна лягчэй, бо ёсьць падтрымка духоўная. Самотным - дужа складана. Найлепшы паратунак - знайсьці сабе гобі, сустрэцца з сябрамі й добра пасьпяваць. Сьпевы дапамагаюць!

А тут у сьнежаньскім нумары "Беларуса" знаходжу запрашэньне на навагоднюю вечарыну, якую ладзяць сябры БАЗА. Думаю, колькі-ж цудоўных сустрэчаў і сьвятаў я прапусьціла ў сваім жыцьці з-за нейкай адвечнай працы? Трэба ісьці!

На сьвяткаваньне мяне падвезьлі Лена і Пятро Рыжыя. У сьвяточна ўпрыгожаней залі вышываныя ручнікі, гірлянды, на сталі сьвятло дыскаболу, сталы накрытыя чырвонымі й зялёнымі абрусамі, прыгожа сэрвіраваныя, з букетамі кветак і сьвечкамі. Вольных месцаў не відаць. На сцэне сьцягі: амэрыканскі й беларускі, пасярэдзіне Пагоня, прыгожая ялінка, піяніна, іншыя музычныя інструмэнты. Ля іх элегантны Алесь Балотнік. Зь ім я пазнаёмілася ў 1991-м годзе, але завочна ведала яшчэ раней. Алесь закончыў менскую кансэрваторыю і стаў ведамым музыкам і сьпеваком народнага стылю. З канцэртамі ён аб'езьдзіў шмат якія краіны Эўропы, удзельнічаў у шматлікіх конкурсах і фэстывалях. Музычнае аздабленьне вечарыны было найлепшае. Ногі самыя несьліся ў пляс і часам здавалася, што паадлятаюць абцасы ў чаравікаў.

Прызнаюся, я ня мела часу на яду. А стравы былі ня толькі прывабнымі на выгляд, але і адменнымі на смак, бо ўсё было прыгатавана рукамі нашых выдатнейшых кухарак Зоі Вашкевіч, Тацьцяны Красоўскай, Аляксандры Лістоўскай ды іншых.



*Сьвяты Мікалай завітаў і на нашую імпрэзу.*

Нечакана на сцэне ў бел-чырвона-белым убраньні зьявіўся Сьвяты Мікалай, які перадаў віншаваньні ад родных зь Беларусі, у свім мяху ён меў падарункі для тых, хто змог адгадаць ягоныя загадкі. Добра прыглядзеўшыся можна было прызнаць у госьці сп. Вячаслава Мішука.

Потым зноў музыка, танцы, карагоды. Прыемна ўсіх зьдзівілі 11-гадовы Сьветавіт і 10-гадовы Славамір, сыны Ганны Бартуль і Сяржука Сокалава-Воюша. Фактычна, гэта быў іх першы канцэрт перад вялікай публікай. Хоць хлапцы толькі два гады навучаюцца ігры на гітары, але яны вельмі ўдала справіліся і з сур'ёзнымі творамі. Сьветавіт выканаў творы Пабла дэ Сарасатэ, Бэтховэна і завяршыў выступ беларускай "Лявоніхай". Славамір іграў на гітары творы ангельскага фальклёру, Вэбэра і скончыў гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які ўсе сьпявалі разам. Выканаўцаў віталі доўгімі апладысмэнтамі.

Працаваў бар, дзе жадаючыя маглі дадаткова набыць напоі.

Усе сышліся на тым, што вечарына ўдалася на славу!

Запомнелася, як адзін малады чалавек, увайшоўшы ў залю, разгарнуў невялікі бел-чырвона-белы сьцяг і паставіў яго ў букет з кветкамі, а сыходзячы, узьняў яго ўгару і сказаў: "Жыве Беларусь!", і ўсе адказалі: "Жыве!".

Застаецца падзякаваць ініцыятарам і арганізатарам імпрэзы, а таксама выступоўцам: Валеру Дворніку, Але Орса-Романо, Алесю Балотніку, Зоі Вашкевіч (не змагла прыйсьці на вечарыну, але прыклала шмат намаганьняў і працы, каб яна адбылася), Тацьцяну Красоўскую, Аляксандру Лістоўскую, Вячаслава Мішука, Сяргея Пятровіча, Анатоля Тальянскага, Алеся Крыштаповіча.

Добра было-б, каб мы маглі часьцей так сустракацца. А тым, хто хоча павесяліцца, не зашкодзіла-б раней адказваць на запрашэньні арганізатараў. Хочацца спадзявацца, што гэты год будзе добрым і шчасьлівым для нас усіх. Будзьма разам!

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

**Наступны сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 14-га лютага а 7-й гадзіне вечара ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага па адрасу:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

## Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

М. Лойка .................................30

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Адважны беларус

Летась, 29-га лістапада, англямоўная "Chicago Tribune" зьмясьціла артыкул карэспандэнта Расэла Воркінга (Rassell Working) пра падарожную адысэю 62-гадовага беларуса Ўладзімера Ярца, былога мэханіка, які глухі і нямы. Гэты фэнамэнальны чалавек праехаў на матацыкле чэскай прадукцыі "Ява-350" 29 краінаў і 50 штатаў Амэрыкі. Але ў штаце Іліной 14-га кастрычніка летась здарыўся няшчасны выпадак, у якім грузавік разьбіў ягоны матацыкль і пакалечыў самога, прычыніўшы пераломы некалькіх касьцей. Яго зьмясьцілі ў шпіталь Сьв. Францыска ў Пэарыі, Іліной, а пасьля доўгага лячэньня ў дом старцаў гэтага шпіталю.

На вестку аб няшчасным выпадку беларускага падарожніка адгукнулася амэрыканская арганізацыя матацыклістаў, перадаўшы паведамленьне аб ім у інтэрнэце, і пачаўшы зьбіраць грошы на новы матацыкл. Паасобныя матацыклісты й клюбы прыйшлі з помаччу, сабраўшы грошы на вопратку і адведаўшы Ўладзімера Ярца ў шпіталі. Дырэктар прэсы ўнівэрсытэту Мінэсота, таксама матацыкліст доўгіх дыстанцыяў Джым Вінтэрэр (Jim Winterer), выказаў надзею, што Ўладзімер Ярэц здолее ўстанавіць рэкорд падарожжаў вакол сьвету і паабяцаў дапамагчы яму.

Уладзімер страціў слых у дзяцінстве, але ад самых раньніх гадоў лятуцеў аб падарожжы. Любіў ён гэаграфію і ў 12 гадоў добра арыентаваўся ў ёй. У 1965-м годзе купіў матацыкл, але ня мог атрымаць права на язду ад беларускіх установаў. Нягледзячы на адмову, Уладзімер паехаў матацыклам па тэрыторыі Савецкага Саюзу і, будучы ў Сібіры, пасьпяхова праехаў праз балоты, нягледзячы на зьнішчальныя праліўным дажджом масты, часамі цягнучы свой матацыкл з клункамі, прарабіў 60 км за гадзіну і дасягнуў свае мэты, дзякуючы ўпартасьці беларускага быка, як зазначае аўтар артыкулу.



*Уладзімер Ярац на сваім матацыкле.*

Калі Ўладзімер вярнуўся на Бацькаўшчыну, беларускія ўстановы, даведаўшыся аб ягоных пасьпяховых падарожжах, далі яму дазвол на язду, як першаму матацыклісту, які і глухі, і нямы.

Пасьля гэтага падарожнік аб'ехаў Савецкі Саюз, Канаду, частку краінаў Карыбскага мора, спыняючыся ў незнаёмых людзей і атрымліваючы ад іх грошы на далейшае падарожжа. На Кубе Ўладзімер правёў тры месяцы ў ізалятары, бо ня меў адпаведных дакумэнтаў, казаў у тэлефоннай гутарцы зь Беларусьсю сын Уладзімера Ярэца, ды зазначыў, што спачатку ня мог зразумець любоў ягонага бацькі да падарожжаў матацыкламі, але пазьней зразумеў, што гэтая страсьць дадзеная ад Бога, што гэта не дзеля славы ці грошай.

Спадзяёмся, што Ўладзімер Ярац хутка паправіцца і асягне сваю мэту - падарожжа матацыклам вакол сьвету.

А для ўсіх нас гэта яркі прыклад, як чалавек нямы й глухі, дзякуючы моцнай волі й хуткай арыентацыі, пераадольвае ўсе перашкоды.

Шчасьці яму, Божа, у будучых падарожжах.

*Падрыхтаваў да друку*
*Др. Вітаўт РАМУК*

## Думка чытача

# Перадаваньне спадчыны

У газэце "Народная Воля" зьмешчаны цікавы артыкул Уладзімера Арлова пад загалоўкам "Дзьве Беларусі - выбар за намі...", што азначае адную Беларусь афіцыйную, а другую - запраўдную беларускую. У артыкуле закранаецца пралётам век уздыму, а таксама і смутныя часы. Такая-ж характэрнасьць ёсьць і ў іншых народаў. Большую ўвагу аўтар зьвяртае на падпарадкаваную Беларусь царскай Расеяй, Саветамі ды цяперашнім рэжымам асабліва. Падаюцца, не бяз рацыі, прычыны такога стану, у якім Беларусь сёньня знаходзіцца, як, напрыклад, адкрытасьць тэрыторыі, на якой знаходзяцца скрыжаваньні эўрапейскіх шляхоў, амбіцыяў і інтарэсаў. Прычынілася да нашага ўпадку і тое, што Беларусь была міралюбівая па характару і абкружаная зладумнымі суседзямі. З распадам Саветаў і беларусам удалося аддзяліцца ў сваю дзяржаву, але з выбарам прэзыдэнта пачаліся атакі на ўсё, што ёсьць беларускае - усюды ўводзіцца расейшчына.

Вось урыўкі цьверджаньняў Арлова ў артыкуле пра шкоду, якую прыносіць школа, дапаможнікі, падручнікі ды наагул афіцыйная прэса: ...мы зьяўляемся сьведкамі яшчэ адной найноўшай спробы цынічнага рэдагаваньня, як далёкай, так і зусім блізкай гісторыі ў афіцыйных выданьнях, падручніках, энцыкляпэдыях. ...Даверлівы вучань мог даведацца, напрыклад, што нашых продкаў вечна нехта заваёўваў і прыгнятаў: спачатку літоўскія фэадалы, пасьля польскія..., ...спасьцігнуўшы "навуку" па такіх, з дазволу сказаць, падручніках, выпускнік школы ці інстытута разам з атэстатам або дыплёмам і комплекс гістарычнай, а значыць, і нацыянальнай непаўнавартасьці атрымлівае.

На гвалт патаптаньня беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў, парушэньне чалавечых правоў, зьдзек над беларускім народам Арлоў паабяцаў сабе пасьля рэфэрэндуму 1995-га году не прамінуць ні аднаго запрашэньня на сустрэчу з чытачамі, вучнямі ці грамадзтвам. На выклік прыгнятальнікаў, кажа Арлоў, мы павінны адказаць узмацненьнем пазыцыяў нашай беларускай Беларусі.

Задаючы самыя сабе пытаньне, ці навучыліся мы жыць дэмакратычна, выхоўваць дзяцей у адпаведнасьці з гэтымі марамі й ідэямі, Уладзімер Арлоў дае адказ канкрэтны - навучае, укладае і выдае падручнікі па гісторыі Беларусі ды іншыя кнігі, піша артыкулы, выступае як лектар, дакладчык, вядзе гутаркі на сустрэчах. Словам, дае прыклад, як трэба жыць і дзейнічаць.

Варта тут зьвярнуць яшчэ ўвагу на іншы сродак масавага пашырэньня беларускасьці - гэта распрацаваньне канспэктаў-лекцыяў па беларускай мове для вучняў 7-15 гадоў, па гісторыі Беларусі для юнакоў і юначак 15-23 гадоў, якія можна было-б лёгка распаўсюджваць па Беларусі.

Што да існуючых школаў, мы хочам ці не, але моладзь мусіць праз іх праходзіць, але памяць і ўсю набытую спадчыну, сваю беларускую, можам перадаць ёй толькі праз прыватна-хатняе навучаньне. Яно называецца часам завочнымі курсамі.

*Арм*

## Рэцэнзія

# Рок-н-рол і нашчадкі Паўлінкі

**"P.L.A.N." - "Blues у канцы тунэлю", Мн., 2003, "Элайн-М"**

**"P.L.A.N." - "Вам слова, Джон Ячмень!", Мн., 2003, "Master records"**



У беларускай культуры ёсьць імёны, сьвятыя для кожнага беларуса, ведамыя ўсім: Скарына, Баградановіч, Купала, Багушэвіч... А ці спрабаваў хто пацікавіцца, чым займаюцца нашчадкі нашых славутых фаміліяў? Я ведаю, што Стэнлі Скарына ўвайшоў у пантэон брытанскай клясычнай музыкі, нашчадкі Багушэвіча працуюць на беларускапольскім культурным памежжы, а мяне асабіста лёс зьвязаў з пляменьнікам славутай Паўлінкі Мядзёлкі, якой сам Купала прысьвяціў клясычную сваю п'есу "Паўлінка". Андрэй Плясанаў цётку Паўліну, стрыечную сястру ягонай маці, памятае цудоўна, неадноўчы расказваў сямейныя згадкі ў музэі Янкі Купалы на Мядзёлкаўскіх вечарынах, нават сьпяваў там, бо сам Андрэй, калекцыянэр, кінарэжысэр і мастак, займаецца цяпер рок-н-ролам. Зрэшты, ягоны лёс складваўся ў рок-музыцы даволі традыцыйна для сучаснай Беларусі: пасьпеў пасьпяваць і па-ангельску, і па-польску, і па-расейску, але адмысловы сьцьвярджаюць, што з пэўнага часу яго пачалі заўважаць на ўсіх беларускамоўных канцэртах. Потым ён патлумачыў у адным з інтэрв'ю, што, заўважыўшы моц роднай мовы ў року, прыслухоўваўся да тых, хто дасьпеў раней: "N.R.M.", "Крама", "Troitsa", "Kriwi", "Уліс", А. Памідораў...

Калі ягоны гурт "P.L.A.N." у 2003-м годзе нарэшце дасьпеў да паўнафарматнага альбому, гэты альбом - "Blues у канцы тунэлю" - аказаўся выключна беларускамоўным. Мне асабіста прыемна, што сярод авангарду беларускага паэтычнага вальнадумства (Андрэй Бурсаў, Вера Лойка, Мікола Адам) гурт не абмінуў увагаю і мае пякучыя рыфмы ("Цені гісторыі", "Даміно"). Пра апошнюю песьню ўплывовая менская "Музыкальная газэта" асьмелілася нават напісаць: "Рэфрэн гэтага твору пабудаваны на паўторы вельмі характэрнай сэнтэнцыі - забі казла, забі казла. Гэта даміно маецца на ўвазе, а ня тое, што вы ўсе падумалі" ("МГ" № 4, 18.02.2003).

Па шчырасьці, мяне асабіста больш захапляе геніяльнасьць мэлёдыі "Ценяў гісторыі", іх дасканалая аранжыроўка, дзе зьмешваюцца традыцыі клясычнага блюзу і віртуознага акустычнага фламэнка. А сам Плясанаў для промa-сінглу выбраў старую сваю песьню часоў гіпісаў "Шукальнікі сэнсу". Ен напісаў яе ў 1968-м, калі быў арганізатарам першых менскіх біт-фэстываляў, а сталася так, што тэма ўсеабдымнай улады каханьня прабралa і сёньняшніх мэлямaнаў: песьня доўга лідзіравала ўва многіх гітпарадах Беларусі й стварыла добрае паблісіці для дэбютнага альбому гурта "P.L:A.N.".

Але 2003-ці год стаў для калектыву яшчэ больш плённым, бо ў канцы яго на музычных паліцах Беларусі зьявіўся і другі альбом - "Вам слова, Джон Ячмень!". Назву яму даў піўны гімн Робэрта Бёрнса, па-майстэрску перакладзены на беларускую мову Язэпам Семяжонам яшчэ ў 80-х гадох. А адкрывае дыск яшчэ адзін плясанаўскі гіт на мае словы - "Ой, Дуся, Дуся...", якім "P.L.A.N." здолеў імпэтна ўзьняць з месцаў публіку перапоўненай канцэртовай залі "Менск" на гучным трыб'ют-канцэрце "Viza N.R.M." Кавэр песьні "Маё пакаленьне" з названага трыб'юта таксама ўвайшоў у другі альбом калектыва, як і беларускамоўная пераробка песьні Віктара Цоя (легендарны піцерскі гурт "Кіно") "Рок-н-рол шанц".

Усё астатняе ў альбоме - сваё, плясанаўскае, або напісанае адмыслова для гурта "P.L.A.N." знакамітымі сябрамі. Напрыклад, песьні "Скрып-блюз" і "Віртуальная хуткасьць" падарыў калега Плясанава, лепшы рок-гітарыст Менску на біт-фэстывалі 1968-га году Яўген Канавалаў. Але ўся гэтая гіпісаўская клясыка трапіла ў прамысловы тыраж упершыню.

Цікава, як у рок-музыцы прасочваецца свая пераемнасьць традыцыяў. Хто прыгадае суровы альбом індыя-рока "Сьвята пагарадзенае" Аляксандра Памідорава (2002), знойдзе і ў гурта "P.L.A.N." цікавае разьвіцьцё гэтай тэмы - "Тост пакрадзеных сьвятаў". Гэта надзвычай актуальна ў краіне, дзе сьвяты скончыліся там, дзе празднікі кожны адвольна прыдумвае сабе сам. Абы выпіць:

За тых, каго няма ў паміне,
За Божы дар, бацькоўскі дом,
Да скону верныя Цусіме,
Мы п'ём.

А сапраўды: беларусы сьвяткуюць Дзень абаронцаў Айчыны, ... калі расейская армія перамагла некага пад Выбаргам, а Дзень незалежнасьці пераносяць пяты ўжо раз. Якая-ж тут сьвятасьць?

Выхад другога альбому гурта "P.L.A.N." быў прымеркаваны да 55-годзьдзя Плясанава, таму ў праграму ўвайшлі ня толькі песьні, але і цэлая выстава жывапісных палотнаў і працаў бадыарту. Плясанаў ня сябра Саюзу мастакоў, але ягонае імя стаіць у прэстыжных каталёгах сусьветнага авангарду. Акрамя таго буклет альбому упершыню ўпрыгожваюць экспанаты ягонай прыватнай калекцыі - карціны Д. Сурыновіча і А. Меранкова.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

*Каб замовіць гэтыя СД пошт ою дашліце $12 (кожны СД) на адрас рэдакцыі "Беларуса".*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# У Беларусі змагаюцца зь беларускай музыкай



Беларускаму Саюзу кампазытараў - 70 гадоў. Гэта ня значыць, што беларуская музыка пачалася толькі пасьля рэвалюцыі пры савецкай уладзе. Хаця пры савецкай уладзе так і лічылася... Нажаль, у свой час каланіяльная Беларусь шчодра аддавала сваіх Глінку, Манюшку, Агінскага, Стравінскага, Шастаковіча іншым краінам. Закон імпэрыі - высмоктваньне талентаў з калёніі ў мэтраполію - няўхільна дзейнічаў і тут.

Наша Акадэмія музыкі выпускае прафэсыйных кампазытараў, але ў дзяржаўным рэестры прафэсіяў такой прафэсыі - кампазытар - няма. Можа таму дзяржава і ня бачыць праблемаў з акадэмічнай музыкай.

Мы ня маем дзяржаўнага музычнага выдавецтва, якое друкавала-б падручнікі, папулярныя кнігі аб кампазытарах і музыцы, партытуры, клявіры, ноты для выканаўцаў. Мы, як і былая калёнія Расеі, усё яшчэ прывязаныя да яе ня толькі мовай, газам і нафтаю, але і музычнай друкаванай прадукцыяй. Я ўжо не кажу пра посткаляніяльны сіндром беларусаў, які выяўляецца ў празьмерным і бяздумным спажываньні расейскай поп-культуры ня лепшага гатунку.

У Расеі музычныя выдавецтвы зьявіліся ў сярэдзіне 19-га стагодзьдзя, у Нямеччыне - яшчэ раней. Таму іхную музыку выконваюць ва ўсім сьвеце, а нашую ня ведаюць. Калі мы хочам звацца народам, нам трэба зразумець: без свайго музычнага выдавецтва ў Беларусі Расея, як і раней, будзе "замаўляць музыку" беларусам, а мы "таньчыць" пад яе. І гэтая музычная залежнасьць зробіць нашу музычную культуру непаўнавартаснай і другаснай у параўнаньні зь іншымі. У нас ужо зараз з культурнага жыцьця выкінуты вялізны пласт - беларуская музыка і фальклёр. Да мяне прыяжджаюць з усяе Беларусі выкладчыкі па харавыя партытуры. Я раблю тое, што павінна рабіць дзяржава - за свой кошт друкую харавыя аранжыроўкі й апрацоўкі. Трэба стварыць спэцыяльны музычны часапіс, дзе былі-б прадстаўленыя крытыка, прэм'еры, агляд музычнага жыцьця і г. д.

У Менску ня купіш ні беларускай музыкі, ні сусьветнай клясыкі. Беларусы ў духоўным пляне безнадзейна адсталі ад Эўропы.

Канцэртнага выкананьня і гучаньня ў этэры твораў беларускіх кампазытараў амаль няма. Рэпэртуарная палітыка дзяржаўных калектываў і музычных тэатраў амаль антыбеларуская. Па надуманых прычынах у музычных тэатрах здымаюцца (прыпыняюцца) аншлагавыя нацыянальныя спэктаклі, ня ставяцца новыя.

Калісьці ў Расеі змагаліся з засільлем італьянскай музыкі, а ў Італіі - з засільлем нямецкай. У Беларусі-ж змагаюцца... зь беларускай музыкай! Дзіўная краіна!

Я хачу зьвярнуцца да людзей, якія на сваё пытаньне "чаму не гучыць беларуская музыка?" пачуюць "Ды яна слабая і нецікавая". Не верце такому! Так гаворыць той, хто ня ведае беларускай музыкі. Па маіх назіраньнях, беларусы ня ведаюць сваіх народных песень, што зьяўляецца нонсэнсам у сьвеце, бо веданьне народных песень - паказчык сьвядомасьці й любові да сваёй Радзімы.

Не разумею сёньняшняй рэпэртуарнай палітыкі Тэатру опэры й балету. З сэзону ў сэзон - адныя і тыя-ж два-тры творы беларускіх кампазытараў, астатняе - італьянскае і расейскае.

У краіне даўно насьпела патрэба ў рэформе музычнага выхаваньня і адукацыі, якія, па сутнасьці, зьяўляюцца ў нас яшчэ савецкімі, бо ня ўзяты курс на тое, каб беларускую музычную культуру разглядаць у кантэксьце сусьветнай.

У нас дзяржава ня мае палітыкі будаўніцтва нацыянальнай культуры, не прапагандуе музыку высокага кшталту - аўтэнтычны фальклёр, айчынную і сусьветную клясыку. Яны ўсё больш выцясьняюцца безнацыянальнай амэрыкана-расейскаю пошасьцю ў выглядзе нізкапробнай папсы.

*Алесь РАЧЫНСКІ, кампазытар*
*Менск*

# Угодкі БЦР

*Заканчэньне. Пачатак на бачыне 1*

ніцтва перад акупацыйнымі ўладамі.

Аднак запозна немцы пачалі "клапаціцца" пра беларусаў. Фронт няўхільна пасоўваўся на захад. Дзеячы-ж БЦР выкарыстоўвалі гэтую сітуацыю ў сваіх мэтах. Яны "вярнулі" ў склад Генэральнага камісарыяту Беларусь Палесьсе, якое ўлетку 1941-га году немцы здарылі Ўкраіне. Генэральны камісарыят атрымаў большую аўтаномію - быў вылучаны са складу Райхскамісарыяту Остлянд.

Зазначым, што яшчэ ад самага пачатку акупацыі беларускія палітыкі дабіваліся ад новых уладаў стварэньня сваіх збройных сілаў - дзеля набыцьця вагі ў грамадзтве і абароны насельніцтва як ад савецкіх партызан, так і гітлераўцаў. Паспрабавалі, напрыклад, у 1942-м годзе стварыць Самаахову - чыноўнікі ў Бэрліне занепакоіліся, што самаахоўцы павернуць зброю супраць іх - большасьць батальёнаў была распушчаная.

Тая-ж сытуацыя паўтарылася і зь Беларускай Краёвай Абаронай у 1944-м годзе. Меркавалася, што БКА стане беларускім войскам. На мабілізацыйны заклік Радаслава Астроўскага - загад генэральнага камісара аб стварэньні БКА быў падпісаны 23-га лютага - адгукнуліся дзясяткі тысячаў беларусаў, а паводле некаторых ацэнак, на мабілізацыйныя пункты прыйшло да 100 тыс. чалавек. Нямецкае чынавенства не чакала такога масавага напліву - і частка рэкрутаў была распушчаная па дамах. Так, у Слуцкай акрузе з 7 тыс. чалавек, што прыйшлі на прызыўныя пункты, засталося 3.982, а ў Баранавіцкай забракавалі яшчэ болей - з 26 тыс. у казармах засталося крыху менш за 6.500 чалавек. Але і тыя, хто застаўся (а гэта па ўсёй Генэральнай акрузе не больш за 25 тыс. чалавек), былі асуджаныя на нялёгкія выпрабаваньні. Нягледзячы на ўсе захады БЦР, нямецкія ўлады ўсяляк сабатавалі БКА, не забясьпечваючы жаўнераў абмундзіраваньнем і зброяй. Толькі лічаныя батальёны змаглі ўзяць удзел у баях з партызанамі. А ўлетку былі пастаўленыя перад нялёгкім выбарам далейшага лёсу - ці сыходзіць на чужыну, ці заставацца на свой страх і рызыку ў Беларусі, чакаючы савецкіх рэпрэсіяў.

Апошнім мерапрыемствам, якое зладзіла БЦР на Бацькаўшчыне, было скліканьне Другога Ўсебеларускага Кангрэсу (27 чэрвеня 1944 г.). Кангрэс прыняў рэзалюцыю, што ўсе пастановы Савецкага ўраду і Польшчы, якія тычацца тэрыторыі Беларусі й беларускага народу, зьяўляюцца несапраўднымі, пацьвердзіў незалежнасьць Беларусі, яе разрыў з Масквою. Гэты разрыў быў больш дэклярацыйны, папяровы, бо пад Менскам ужо стаялі савецкія войскі. Аднак і ён меў немалое значэньне, прынамсі да гэтага дакумэнта, як волевыяўленьня дэлегатаў Кангрэсу, можна было па вайне апэляваць перад рознымі замежнымі палітычнымі структурамі. Таксама ў рэзалюцыі адзначалася, што адзіным прадстаўніком беларускага народу зьяўляецца Беларуская Цэнтральная Рада. На той час гэта была праўда, бо ніякай больш агульнанацыянальнай палітычнай арганізацыі не існавала - ні ў Беларусі, ні па-за яе межамі. А Рада БНР адрадзілася толькі праз тры гады - у канцы 1947-га году.



*Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Здымак 1940-х гадоў.*

Праз некалькі дзён пасьля Кангрэсу пачалася эвакуацыя. Усе структуры БЦР выехалі на Захад. У Нямеччыне кіраўніцтва арганізацыі шмат зрабіла для арганізацыі й дапамогі сотням тысячаў беларусаў, што апынуліся на чужыне добраахвотна ці былі вывезеныя на прымусовыя працы ў Нямеччыну і Аўстрыю.

Ужо потым, па капітуляцыі Нямеччыны, Радаслаў Астроўскі, унікаючы абвінавачаньня з боку заходніх краінаў у супрацоўніцтве з нацыстамі, распусьціў БЦР, што добра выкарысталі ягоныя палітычныя праціўнікі. Але праз некалькі месяцаў пасьля аднаўленьня Рады БНР, у пачатку 1948-га году, адрадзілася і Беларуская Цэнтральная Рада. І пайшло змаганьне, якое трывала некалькі дзесяцігодзьдзяў. Даходзіла нават да абсурду: калі ў адным і тым-жа горадзе наладжваліся адзначэньні аднаго і таго-ж сьвята. У адным месцы гэта сьвята адзначалі бэнэраўцы, а асобна - бэцээраўцы. Наступствы расколу, найперш у ацэнках тых ці іншых дзеячаў ці падзей, адчуваюцца і па сёньняшні дзень.

У выніку да дзейнасьці БЦР заўсёды адмоўна ставіліся і іх апанэнты на эміграцыі, і савецкія гісторыкі, што і да сёньня адмоўна ўплывае на імідж Рады. Для савецкіх і вялікай часткі сёньняшніх беларускіх гісторыкаў бэцээраўцы - гэта здраднікі, супрацоўнікі з нацыстамі. Апанэнты-эмігранты таксама заўсёды абвінавачвалі бэцээраўцаў у калябарацыі з гітлераўцамі. Прычым яны чамусьці забыліся, што самі былі эмігрантамі 1944-га году і бралі ўдзел у грамадзкай працы пад акупацыяй, а таму - добра ведалі, што любая палітычная незалежніцкая дзейнасьць, якая ішла па-за ўзгадненьнем зь немцамі, жорстка спынялася. За прыкладамі далёка хадзіць ня трэба: праявілі незалежніцкія памкненьні ксёндз Гадлеўскі і лідэр Беларускае Народнае Самапомачы Іван Ермачэнка - першага расстралялі ў Трасьцянцы, другога вярнулі ў Прагу пад нагляд гестапа, адбіўшы на ўсё астатняе жыцьцё ахвоту займацца грамадзкаю працаю.

Апаненты забываюць найбольш істотнае: Беларуская Цэнтральная Рада працавала ў межах дазволенага, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя сродкі для развіцьця нацыянальнай дзейнасьці. Яе гісторыю неабходна разглядаць з пазыцыі карысьці для Беларусі. Так існаваньне БЦР у 1944-м годзе было чарговаю спробаю інстытуалізацыі беларускай ідэі. Да таго-ж, яна дала беларускаму руху новага аўтарытэтнага лідэра - і гэты аўтарытэт прызнавалі нават апанэнты - Радаслава Астроўскага. Прычым Астроўскі ўжо да 1943-га году меў амаль 40-гадовы досьвед палітычнай дзейнасьці - удзел у расейскай рэвалюцыі 1905-07-х гадоў, сяброўства ў Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе, удзел у Першым Ўсебеларускім Кангрэсе (1917 г.), у Слуцкім Збройным Чыне. Зь невялікімі перапынкамі на працягу 12 гадоў (з 1924 па 1936 гг.) - быў дырэктарам Віленскай Беларускай гімназіі. Адначасова ўваходзіў у склад Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (быў віцэпрэзыдэнтам Цэнтральнага камітэту), актывістам Таварыства Беларускай Школы. Па разгроме Грамады - як і шэраг палітыкаў - зьмяніў погляды й стаў прыхільнікам супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. У 1941 - 1943 гадох стварaў беларускую адміністрацыю ў Менску, Бранску, Смаленску. Ды й займаючы кіраўнічую пасаду ў БЦР. Радаслаў Астроўскі ня верыў сьлепа немцам. Ён паралельна шукаў кантактаў з заходнімі краінамі, найперш вёў перамовы з польскімі палітыкамі наконт будучыні Беларусі. На эміграцыі ён быў бязьзменным лідэрам БЦР (да самой сьмерці ў 1976 г.). Можна па-рознаму ставіцца да Астроўскага, але не падлягае сумненьню ягоны патрыятызм і тое, што ён імкнуўся дзейнічаць на карысьць Бацькаўшчыны.

Гісторыя БЦР дагэтуль не дасьледаваная, кароткія біяграмы ўдзельнікаў і паасобныя публікацыі не ствараюць цэласнай карціны. Таму 60-годзьдзе Беларускай Цэнтральнай Рады - гэта падстава для глыбейшага пераасэнсаваньня яе ўласнай гісторыі на фоне падзеяў усяго беларускага руху другой паловы XX-га стагодзьдзя.

*Алег ГАРДЗІЕНКА*
*Менск*

**АД РЭДАКЦЫІ. Калі з асобнымі тэзамі артыкулу можна спрачацца, нельга не пагадзіцца ў адным: абагульняльная грунтоўная праца па гісторыі БЦР - справа даўно насьпелая, неабходная. Выглядае, у Беларусі ёсьць гісторыкі, якія маглі-б узяцца за яе ды кампэтэнтна і сумленна давесьці да канца. Паўстае пытаньне: ці можа нашае грамадзтва дапамагчы з доступам да архіваў і неабходнай у такіх выпадках стыпэндыяй? Бо гісторыя БЦР - гэта і гісторыя нашае эміграцыі. Адрас Алега Гардзіенкі, супрацоўніка Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Беларусі, навуковага рэдактара кнігаў М. Панькова "Хроніка беларускага жыцьця на эміграцыі", Ю. Туронка "Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939-1944)", Л. Юрэвіча "Выраваныя бачыны" й "Літаратурны рух на эміграцыі" ды шэрагу артыкулаў зь гісторыі БЦР і ваеннае гісторыі наагул, можна атрымаць у рэдакцыі "Беларуса" ці пішыце аўтару наўпрост праз электронную пошту: *hardzijenka@tut.by*.**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Янка ЮХНАВЕЦ
## 3.11.1921 - 6.01.2004



Новы год пачаўся з новых стратаў: на Сьвяты вечар адышоў Янка Юхнавец. Ён ціха жыў, спакойна памёр, пражыўшы чатыры гады ў пустэльні сваёй хваробы: ужо не з жывымі, але яшчэ не сярод мёртвых. Засталася ўдава, сын, кнігі, а таксама рукапісы, якія абавязкова будуць надрукаваныя - проза, паэзія, драмы, дзёньнікі, пераклады… Толькі й без таго відавочна, што сёньня мы страцілі аднаго з найбольш адметных беларускіх філёзафаў і паэтаў - таямнічага, загадкавага, непараўнальнага Янку Юхнаўца.

"Ня ведаю, як будзе доўга
маё жыцьцё цягнуцца ў маім целе.
Ужо тыдзень (дні лічыць я навучыўся),
хаджу да мора слухаць хвалі,
і для яды зьбіраць
на бераг вымытыя мушлі.
На камень сеўшы адпачыць,
цяпер ня чую шум анёльскіх крылаў.
Адно мора плюскочыць каля ног,
іх сьцюдзяніць, як зямля карэньне...
хачу я гутарыць із сабой,
слаць вітаньні абы каму за небакрай:
ці Богу, ці нябачнай дзесьці далёкай хвалі.
Хачу ў пуцявіну мора апусьціцца,
каб знайсьці адгукі мае гамонкі...
Па ўзьбярэжжы (ніколі мне ня думалася)
сьцелецца прывольле, што працы просіць.
Дыханьнем глыбокім яго хвалюе неба,
пра якое я маўчаў калісьці...
Душу кранаю думкамі й развагамі,
ад іх, мой Божа, не адступлю напэўна.
Ня быўшы маленцам (ранейшае, здаецца, пражыта),
я ўжо скараюся жыцьцю й спадзеву іншаму...
Адзінотны - я. Мне помач, Божа, трэба.
Не аднойчы Цябе я патурбую просьбаю
з вуснаў грэшных, але набожна шчырых.
Павер:
душа мая ня ўсім убралася,
што пакінуў тут на зямлі вялікай.
У кажнай сьцені дрэва,
побач нат зы мной,
я падслухоўваю ціхату Тваю,
але помач толькі:
- Адам, Адам, разважай, хвалюйся.
Схаваўся голас мой у грудзях морскіх...
Заходам сонца (так было калісьці)
ня чую гімнаў Боскіх.
Як і раней, я перад Табой укленчаны,
але мальбе цяперашняй словаў не стае.
Не стане мне райскіх кволасьцяў ды радасьцяў,
каб імі пахваліць Цябе
за дайнасьці штодзённыя.
Я чую гутарку сваю -
яна суродзіч маіх пачуцьцяў няўветных.
І думкі яны, як-бы кручаліны,
схаваныя ў заросьнях.
Але за імі падкрадлівы іду
ступаньнем першым першага чалавека.
Калі толькі гутаркай ды думкамі адолею
я асягнуць і час і быцьцё зямное,
ракой прыплыўнай буду поўніць мора
жыцьця вускрослага із цудамі патаёмнымі,
не векавіста бязыменнымі... ".

*(Янка Юхнавец "Адам і Ева")*

Выказваем шчырыя спачуваньні **Віктару ГУРСКАМУ** з нагоды сьмерці маці.
***Сябры й знаёмыя***

## Ахвяраваньні на ангельска-беларускі слоўнік:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Др. Барыс Рагуля і Л. Рагуля | $ 1370 | Др. Янка Шыбут | |
| Кастусь Акула | 500 | (у памяць Зоры Кіпель) | 200 |
| Леў Стагановіч | 250 | Антон Маркевіч | 175 |
| Леў Стагановіч | | Арсень Монід | 152 |
| (у памяць Юры Стагановіча) | 250 | Др. Уладзімер Набагез | 100 |
| Др. Мітрафан Смаршчок | 235 | Мікалай Сагановіч | 100 |
| Кацярына і Яраслаў Вініцкія | 200 | Слава Шабовіч | 30 |



**Сп. Якуб Сапежынскі віншуе ўсіх сваіх знаёмых і сяброў з Новым годам і Калядамі ды жадае вясёлага настрою, здароў'я і аптымізму.**



**Сп. Адольф Субота вітае ўсіх беларусаў з калляднымі сьвятамі ды зычыць шчасьця, здароў'я і ахвярнасьці ў змаганьні за вольную Беларусь.**



**Архіяпіскап БАПНЦ Юры й сьвятары ў Беларусі вітаюць сваіх прыхільнікаў і вернікаў са сьвятам Нараджэньня Хрыстовага і жадаюць вытрываласьці на Божай ніве.**



**Спадарства СТАГАНОВІЧАЎ сардэчна віншуе ўсіх знаёмых і сваякоў з Новым 2004-м годам і Калядамі й жадаюць вясёлых сьвяткаваньняў.**



**Спн. Надзя Няпейн вітае сваіх знаёмых з каляднымі сьвятамі.**



**Віншуем усіх беларусаў, хто змагаецца за свабоду Беларусі з Калядамі й Новым годам. Жадаем шчасьця і вольнай Беларусі.**
**Кацярына і Яраслаў ВІНІЦКІЯ**



**Радасных Калядаў і шчасьлівага Новага году жадае радні, супрацоўнікам "Беларуса" і суродзічам Кастусь АКУЛА.**



**Вясёлых сьвятаў жадае сябрам, знаёмым і ўсім суродзічам Кастусь ВАЙЦЯХОЎСКІ.**

## Газэта "БЕЛАРУС"
***бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Ю. і Л. Кіпель | 400 |
| Я. Арцюх | 100 |
| К. і Я. Вініцкія | 100 |
| М. Сагановіч | 100 |
| Прыход БАПЦ у Таронта | 76 |
| А. Хадаронак | 70 |
| М. Баяроўскі | 50 |
| С. і К. Будкевіч | 50 |
| А. Кабяка | 50 |
| Л. Літаровіч | 50 |
| Н. Рагуля | 50 |
| Я. Сапежынскі | 50 |
| М. Сенька | 50 |
| А. Субота | 40 |
| Я. Завістовіч | 30 |
| М. і М. Каленік | 30 |
| М. і А. Кузьміч | 30 |
| М. Лойка | 30 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| В. Нікіфаровіч | 30 |
| Э. Норык | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Ю. Станкевіч | 30 |
| Н. Няпейн | 20 |

**Справаздача М. Лужынскага:**

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі .... аўстр. дал. | 200 |
| Л. Бакуновіч | 60 |
| В. Нарушэвіч | 60 |
| Г. Падгайская | 60 |
| М. Антух | 60 |
| Я. Шкода | 60 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| У. Русак | 60 |
| В. Ліпскі | 60 |
| П. Пер'еў | 30 |
| Т. Яфімовіч | 30 |
| І. Шарэнда | 30 |
| С. і У. Піерс-Адашкевіч | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е
Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.
Subscription $30 yearly
Make checks payable to BIELARUS

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар
Марат Клакоцкі
Падпіска
Сяргей Трыгубовіч

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.
© BIELARUS, 2003
Адрас для допісаў і кантактаў:
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
E-mail:
hazetabielarus@att.net
Сусьветнае сеціва:
www.bielarus.org
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018